ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАГА ЎНІЯЦКАГА СВЯТАРСТВА ПА МАТЭРЫЯЛАХ “ЛИТОВСКИХ ЕПАРХИАЛЬНЫХ ВЕДОМОСТЕЙ” (1863–1916 ГАДЫ)

ВОЛЬГА РЫМКО

***Анатацыя:*** У артыкуле прадстаўлены агляд матэрыялаў па гісторыі белага ўніяцкага святарства, размешчаных на старонках “Литовских епархиальных ведомостей”, якія выходзілі ў межах Літоўскай епархіі з 1863 па 1916 год. Вывучана насычанасць інфармацыйнага поля дадзеных епархіяльных ведамасцей публікацыямі пазначанай тэматыкі, адлюстраваны стан белага ўніяцкага кліру ў перыяд з 1596 па 1839 год і яго ўзаемаадносіны з чорным уніяцкім святарствам.

***Ключавыя словы:*** “Літоўскія епархіяльныя ведамасці”, уніяцкая царква, белае ўніяцкае святарства, базыльяне.

# THE HISTORY OF WHITE UNIATE CLERGY IN THE MATERIALS OF “LITHUANIAN DIOCESAN GAZETTE” (1863–1916)

***Abstract:*** The article presents an overview of the materials on the history of white Uniate clergy as seen in the pages of “Lithuanian Diocesan Gazette” which was published for the Lithuanian diocese from 1863 to 1916. It studies the saturation of the information field of the diocesan Gazette with the publications on the designated themes and reflects the position of the white Uniate clergy between 1596 and 1839 as well as their relationship with the black Uniate clergy.

***Keywords:*** “Lithuanian Diocesan Gazette”, Uniate Church, White Uniate Clergy, Basilian Monks.

Падчас вывучэння матэрыялаў “Литовских епархиальных ведомостей” (1863–1916 гады) намі была вызначана асаблівая праблема, якая існавала ўнутры ўняцкай царквы – неспрыяльны стан белага ўніяцкага кліру. Адной з прычын гэтага быў своеасаблівы працэс фармавання ўніяцкага духоўнага саслоўя: *“кто из корчмы, кто из панского двора, кто из войска, кто проводил время в праздности, а когда не стало, на что есть и во что одеться и нужда ему шею согнула, тогда он начинал благовествовать, не мысля, что такое благовествование”* (Униятские теологи..., 1869: 703–704).

Страціўшы яшчэ пры мітрапаліце І. Руцкім сваю маёмасць, уніяцкія святары надалей пазбавіліся магчымасці на паўнавартасную адукацыю, так неабходную для паспяховай пастырскай дзейнасці, дзякуючы чаму пропаведзі практычна зніклі з царкоўнага жыцця ўніятаў. Хутка таксама і права замяшчэння ўсіх іерархічных і епархіяльных пасад ва ўніяцкай царкве было перададзена выключна базыльянскаму манаскаму ордэну, адзінаму ва ўніяцкай царкве на працягу ўсяго часу яе існавання (Щербицкий, 1866: 169).

Пераслед уніяцкага святарства пачынаўся яшчэ ў школе, дзе дзяцей уніяцкіх святароў прымушалі выконваць самую зняважлівую працу, абвінавачвалі ў розных выпадках нават тады, калі вінаваты быў вучань-каталік. Зневажалі не толькі саміх вучняў, але і іх уніяцкую веру. Такія адносіны з навучальных устаноў пераходзілі ў жыццё ўніяцкага прыходскага святара, дзе ён залежаў ад памешчыка-каталіка (Щербицкий, 1866: 225–226).

Гісторыі штодзённага жыцця белага ўніяцкага святарства XVIII–XIX стагоддзяў прысвечана праца М. Малішэўскага, у якой ён адказаў на пытанні, *“при какой обстановке и на какия средства жили наши предки, как воспитывали своих детей и в чем проявлялась их пастырская деятельность”* (Малишевский, 1873: 52). Аўтар падрабязна апісаў колькасць і ўладкаванне памяшканняў святарскага жытла. Асноўнымі артыкуламі прыбыткаў уніяцкага святара была дзесяціна, зямля, ракаўшчызна (штогадовы грашовы альбо хлебны падатак), асяніна і трэбы.

Пасля Замойскага сабору 1720 года ва ўмовах акаталічвання уніі *“патроны униятских церквей были настоящими грабителями церквей: забирали церковныя деньги и материалы, собранныя и приготовленныя народом на починку или устройство церкви, брали десятину с церковных пчел на том основании, что пчелы собирали мед на полях и в лесах панских и с овец священника на подобном же основании”* (Малишевский, 1873: 77). Аўтар на некалькіх прыкладах склаў пералік *“обид и насилий, причиненных униятским церквам и духовенству их колляторами и посторонними лицами”* ў XVIII стагоддзі: колькі было адабрана ў святароў зямлі, скаціны, колькі было ўзята падаткаў.

Лёсу белага ўніяцкага святарства прысвечана таксама публікацыя, якая павінна была *"знакомить духовенство со всеми печатными суждениями о нем, будут ли они к его чести или нет"* (Литовские епархиальные ведомости, 1870: 678–679). Аўтар артыкула абвінаваціў беларускі і ўкраінскі народы і былое ўніяцкае святарства ў тым, што яны толькі знешне сталі праваслаўнымі пасля Полацкага сабору 1839 года, а на самай справе не жадалі адмаўляцца ад уніяцкіх традыцый, размаўлялі і маліліся па-польску. Пры гэтым узвышаецца роля *"коренного русского духовенства",* якое, па меркаванні аўтара, толькі і магло прыўнесці праваслаўныя традыцыі ў Паўночна-Заходні край і Маларосію.

Рэдакцыя "Литовских епархиальных ведомостей" адзначала, што ў адказ на дадзеныя заявы было атрымана шмат лістоў і артыкулаў ад святарства Літоўскай епархіі з абурэннямі ў адрас аўтара такога "пасквиля". З усіх атрыманых матэрыялаў найбольш прыдатным стаўся ліст святара А. Тэадаровіча з вёскі Пашукі Брэсцкага павета, які і быў надрукаваны. Айцец Андрэй вырашыў *"защитить свою репутацию разоблачением лживых положений трактата"* (Теодорович, 1871: 62). Яго ліст мае палемічны характар.

Аўтар наступнага артыкула падзяліў грэка-каталіцкіх святароў на тры групы згодна са ступенню іх адукаванасці: 1) тыя, хто атрымаў адукацыю ў Віленскай галоўнай семінарыі – духоўная арыстакратыя; 2) тыя, хто вучыўся, аднак не да канца, у дваранскіх вучылішчах; 3) святары з асяроддзя мяшчан і сялян, якія валодалі толькі адным уменнем – чытаць па-польску богаслужэбныя кнігі. Акрамя таго, практыкаваўся продаж царкоўных пасад, у выніку чаго святаром мог стаць чалавек, які не ведаў нават дзесяці запаведзяў і з цяжкасцю мог напісаць уласнае прозвішча (И-ский, 1872).

Аўтар П. Янкоўскі адлюстраваў у сваёй публікацыі партрэт уніяцкага святара, згодна з якім апошні са сваёй сям'ёй па родзе заняткаў адносіўся да сялянскага саслоўя: часта можна было бачыць святара і яго сыноў за працай у полі, а святарская хата *"только что дымовой трубой отличается от прочих крестьянских"* (Янковский, 1868: 262). У якасці канкрэтнага прыкладу аўтар прывёў апісанне жытла і прыходу святара І. Калінскага з Камянецкага благачыння. Апісаны таксама метады выхавання дзяцей, жыццёвы шлях, які абіралі святарскія дзеці.

Вырашэнню праблем паляпшэння жыцця і адкрыцця семінарыі для белага ўніяцкага святарства быў прысвечаны праект святара Літоўскай епархіі і каноніка Брэсцкага капітула А. Сасноўскага, напісаны ім у Жыровічах у 1824 годзе. У якасці асноўных прычын занядбанага стану белага святарства аўтар называў манаполію базыльянскага ордэна на адукацыю ва ўніяцкай царкве, зварот па дапамогу да езуітаў і іх методыкі

выкладання, выбранне на мітрапалічыя і епіскапскія пасады толькі манахаў-базыльян, ліквідацыя кафедральных капітулаў як асяродкаў адукаванага святарства. Акрамя таго, шматлікія фундушы белага ўніяцкага святарства адбіраліся поўнасцю альбо часткова, лепшыя прыходы і храмы былі захоплены базыльянамі і пераўтвораны ў манастыры.

У сваім праекце А. Сасноўскі заклікаў улады звярнуць асаблівую ўвагу на лёс уніяцкага святарства і дапамагчы яму ў арганізацыі адукацыі. Ён прапаноўваў прызначыць кожнаму святару ўтрыманне праз скарачэнне колькасці манахаў і справядлівае размеркаванне прыбыткаў ад манаскіх і прыходскіх фундушаў; вярнуць адабраныя базыльянамі цэрквы на карысць прыходскіх святароў; вызначыць, у якіх уніяцкіх прыходах царкоўную дзесяціну атрымліваюць каталіцкія ксяндзы, і, адпаведна, аднесці яе на карысць уніяцкіх святароў; перыядычна збіраць сялянскую талаку ў дапамогу святару падчас сельскагаспадарчых работ (Литовские епархиальные ведомости, 1874: 181–182).

Матэрыялы, змешчаныя на старонках "Литовских епархиальных ведомостей" і прысвечаныя гісторыі белага ўніяцкага святарства Беларусі, дазваляюць даследчыку царкоўнай гісторыі азнаёміцца з праваслаўнай пазіцыяй па дадзенай праблеме і вызначаюць стан уніяцкага кліру як залежны і прыніжаны, што было абумоўлена яго неадукаванасцю, слабай матэрыяльнай забяспечанасцю і ўзвышэннем ролі ўніяцкага манаства.

### *Бібліяграфія*

1. "Бывшее униятское духовенство" (1870). *Литовские епархиальные ведомости,* № 17: 678–681.

2. И-ский, М. (1872). «О состоянии духовенства Литовской епархии в последнее время существования унии и несколько воспоминаний о митрополите Иосифе», *Литовские епархиальные ведомости,* №1: 14–22; №2: 43–50; №3: 76–83.

3. Малишевский, Н. (1873). "Из быта белаго униатскаго духовенства", *Литовские епархиальные ведомости,* №4: 52–55; №5: 61–63; №6: 66–69; №7: 76–78; №8: 84–86; № 9: 91–93.

4. "О средстве умножения в греко-унитском духовенстве просвещения" (1874). *Литовские епархиальные ведомости,* №19: 149–152; №20: 156–159; №21: 165–167; №22: 172–175; №23: 180–183; №24: 190–192.

5. Теодорович, А. (1871). "По поводу трактата "Бывшее униятское духовенство" из брошюры неизвестнаго автора "Последнее слово о польском вопросе в России", *Литовские епархиальные ведомости,* №2: 61–73.

6. “Униятские теологи и проповедники, в конце 18-го столетия и начале 19-го” (1869). *Литовские епархиальные ведомости,* №11: 703–706.

7. Щербицкий, О. В. (1866). “Состояние белаго униятскаго духовенства во времена польскаго владычества”, *Литовские епархиальные ведомости,* №5: 161–182; №6: 218–245.

8. Янковский, Пл. (1868). “На рубеже. Очерки недавняго и современнаго быта возсоединеннаго духовенства”, *Литовские епархиальные ведомости,* №6: 257–276.